№ 2 (125)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Люты 2012 г.

## Хто нажываецца за кошт працаўнікоў вёскі?



*Адказ на гэта пытанне даў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Паўлоўскі ў каментары газеце “Беларуская ніва”.*

У прыватнасці, намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчы Васіль Паўлоўскі ў каментары газеце “Беларуская ніва” абурыўся цяперашнім парадкам коштаўтварэння на харчовыя тавары.

- Сапраўды, сёння ў краме грэчка каштуе 16000 рублёў, а прадаём збожжа грэчкі па 2700 - 2900 - розніца ў 6 раз! - канстатуе намміністра. – Хлебапрыёмныя камбінаты накручваюць 30 адсоткаў, гандаль - 30... Што, павінен калгас пакутаваць сёння, карміць усю гэту “пракладку”?! І гэта не толькі па грэчцы, так па ўсіх крупах. Пагледзіце: на мяса закупачны кошт 11-15 тысяч, а ў краме - 70 тысяч!.

Не магу не пагадзіцца з паважаным намеснікам міністра наконт таго, што працаўнікоў вёскі, нягледзячы на ўсе громкія словы з боку чыноўнікаў ад улады пра росквіт сельскай гаспадаркі ў нашай краіне, паранейшаму абдзіраюць, як ліпку, тыя ж перапрацоўшчыкі, ды і бюракраты таксама ў баку не застаюцца. Калі хтосьці хоча са мной не пагадзіцца, параўнайце, якія заробкі ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі і колькі атрымліваюць за сваю працу супрацоўнікі перапрацоўчай галіны і чыноўнікі ад улады. Прычым, думаю, для большасці жыхароў нашага сельскагаспадарчага Бялыніцкага раёна не з’яўляецца сакрэтам, што праца ў сельскагаспадарчай вытворчасці даволі цяжкая, таму чаргі на працаўладкаванне нават у лепшыя гаспадаркі раёна не назіраецца. Між тым, ужо амаль васямнаццаць гадоў нашы працавітыя ідэолагі распавядаюць байкі пра тое, як добра жывецца селяніну ў “квітнеючай” Беларусі...

Хто ж найбольш зацікаўлены ў тым, каб працаўнікі сельскай гаспадаркі працягвалі “карміць усю гэту “пракладку”? Прывяду меркаванне намесніка старшыні партыі БНФ Рыгора Кастусёва, якое ён выклаў у сваім артыкуле “Каму выгодна ўтрымліваць усю гэтую прорву?”:

“Дык у чым жа прычына? Чаму пры такой масіраванай фінансавай падтрымцы з боку дзяржавы сельская гаспадарка Беларусі па сваіх паказчыках у разы адстае ад еўрапейскіх краін? Чаму пры наяўнасці ў нашай краіне да 0,6 га ворыўных земель на аднаго чалавека не горшай па якасці чым у астатняй Еўропе, мы ўсё яшчэ вырашаем праблему “харчовай бяспекі”? У той час як Заходняя Еўропа мае праблему збыту прадукцыі сельскай гаспадаркі па прычыне яе перавытворчасці пры наяўнасці ворыўных земель каля 0,2 га на аднаго жыхара...

**(Заканч. на ст. 2)**

## Збіў сваіх супрацоўніц, а праз некалькі год атрымаў прэмію “Чалавек года”




Дырэктар магілёўскага прадпрыемства “Бабушкина крынка” Ігар Кананчук стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі магілёўскага аблвыканкама “Чалавек года” у намінацыі “Вытворчая дзейнасць”.

Некалькі год назад яму пагражала да пяці год турмы за збіццё сваіх супрацоўніц.

Ужо будучы на пасадзе дырэктара прадпрыемства, Ігар Кананчук абвінаваціў брыгаду сваіх супрацоўніц у тым, што яны кралі малочную прадукцыю. Калі ж жанчыны пачалі даказваць сваю невінаватасць, ён збіў двух, пасля чаго звольніў іх з працы.

Па дапамогу жанчыны прыйшлі ў незалежны прафсаюз, які адстойваў іх інтарэсы ў судзе. Былі зняты пабоі. У якасці сведак выступілі іншыя жанчыны. У адной з пабітых было сатрасенне мозга – дырэктар біў яе галавой аб свой стол.

Прафесар Валеры Беразіенка кажа, **(Зак. на ст. 3)**

# Хто нажываецца за кошт працаўнікоў вёскі?

(Заканчэнне. Пач. на ст. 1)




Асноўная прычына адсталасці сельскай гаспадаркі Беларусі крыецца ў адсутнасці на зямлі сапраўднага гаспадара, а дакладней — у адсутнасці прыватнай уласнасці на зямлю. За дваццаць год Незалежнасці Беларусі не змянілася сістэма карыстання асноўным нашым багаццем. Да гэтай пары ў нас захавалася ўродлівая савецкая форма гаспадарання на зямлі ў выглядзе "сталінскіх калгасаў", створаных у 20-40-х гадах мінулага стагоддзя, нягледзячы на тое, якую назву яны маюць зараз і пад якой шыльдай знаходзяцца.

Да гэтай пары ўсімі працэсамі сельскагаспадарчай вытворчасці, ад апрацоўкі глебы да продажу прадукцыі, кіруюць разнастайныя чыноўнікі з кабінетаў рай- , аблупраўленняў, кабінетаў Міністэрства сельскай гаспадаркі. Агульная колькасць чынавенства з кожным годам павялічваецца, пры тым, што колькасць насельніцтва, занятага ў сельскай гаспадарцы Беларусі за апошнія 20 год скарацілася ў 3 разы. У краіне склалася сітуацыя, што нават ні адзін кіраўнік сельгаспрадпрыемства без дазволу "з верху" не мае права прыняць рашэнне аб збыце прадукцыі свайго прадпрыемства.

Гэтыя ж чыноўнікі распараджаюца і фінансавымі сродкамі, выдзяляемымі дзяржавай для інвеставання сяла. І калі ў заходнееўрапейскіх краінах сродкі даходзяць да гаспадара, да чалавека, які ўладарыць і працуе на зямлі, і ўжо ён прымае непасрэдны ўдзел у прыняцці рашэнняў аб іх выкарыстанні, то ў нашай краіне да сельгаспрадпрыемстваў фінансы праходзяць праз грамаднае сіта чынавенства і выкарыстоўваюцца пад кантролем і з дазволу гэтага чынавенства. Пры гэтым, часцей за ўсё, адказнасці за вынікі таго або іншага рашэння чыноўнікі не нясуць. А там, дзе няма адказнасці, узнікае карупцыя. Толькі на будаўніцтве аб'ектаў сельскагаспадарчай вытворчасці, жылля раскрадаецца да 30% фінансавых сродкаў, выдзяляемых з дзяржбюджэту. Гэта ўсё пачынаецца з размяшчэння заказаў на праектаванне аб'ектаў і працягваецца пры прыняцці рашэнняў аб прадастаўленні права на будаўніцтва аб'ектаў, закупцы матэрыялаў, абсталявання, закупцы пагалоўя для напаўнення комплексаў і т.д.

У выніку падобных безадказных рашэнняў мы маем нярэдка выпадкі, што да гэтай пары жыллё, пабудаванае колькі год таму на сяле, стаіць не заселеным. Ёсць прыклады, калі падобныя домікі былі знесены пасля ўвядзення іх у строй, але там ні дня не жылі людзі. Ёсць шмат пытанняў і па размеркаванні падобнага жылля, калі яно ператвараецца ў дачныя дамы для чыноўнікаў, пражываючых у гарадах.

Асноўнай "кармушкай" для чынавенства з'яўляецца магчымасць па размяшчэнню заказаў для закупкі абсталявання, матэрыялаў, семян, нецеляў (для запаўнення комплексаў буйной рагатай жывёлы) за мяжой з умовай разліку валютай".

Калі сказаць прасцей, нашы паважаныя чыноўнікі прызвычаіліся "піліць бабло", якое ідзе на падтрымку сельскай гаспадаркі, а іншыя пытанні іх не вельмі хвалююць. Таму і той факт, што цэны на сельгаспрадукцыю па дарозе ад поля да прылаўка ўзрастаюць у разы, камусьці вельмі выгодны. Не сакрэт, што ў шматлікіх беларускіх перапрацоўчых і тарговых прадпрыемствах працуе вельмі шмат дзетак нашых уладных чыноўнікаў, а ім жа трэба добра харчавацца, апранацца і адпачываць…

Таму і сярэдні заробак за 11 месяцаў 2011 года ў 1622 працаўнікоў сельскагаспадарчай галіны Бялыніцкага раёна склаў толькі 1353,6 млн. рублёў, пры тым, што намінальная налічаная сярэднемесячная заработная плата па Бялыніцкаму раёну за адпаведны перыяд склала 1548,3 млн. рублёў. Але затое яны могуць паслухаць на "адзіных днях інфармавання насельніцтва" пра тое, як добра яны жывуць у "квітнеючай Беларусі" і як клапоцяцца пра сельскую гаспадарку чыноўнікі ад улады. Дзіўна толькі, што, пры такім добрым жыцці працаўнікоў сельскай гаспадаркі, іх колькасць пастаянна зніжаецца, а колькасць "працалюбівых" бюракратаў расце шалёнымі тэмпамі. Штосьці нашы кіраўнікі і чыноўнікі сваіх дзетак на працу ў сельскую гаспадарку не адпраўляюць, усё больш прасоўваюць бліжэй да сябе…

***Іван Барысаў***

*PS. Дарэчы, паводле дадзеных Белстата, у Беларусі каля 170 тыс. чыноўнікаў усіх узроўняў, што складае прыкладна 3,5% занятых.*

## Анекдот дня

*Лозунг «Задушим коррупцию» был признан экстремистским как призывающий к насильственному свержению существующего строя.*

## Збіў сваіх супрацоўніц, а праз некалькі год атрымаў прэмію "Чалавек года"

(Заканчэнне. Пач. на ст. 1)

што прысутнічаў на гэтым судовым пасяджэнні.

"Тады Кананчуку не далі тэрмін зняволення толькі па выпадковасці. Супраць яго была распачата справа па артыкулу "хуліганства". Кіраўніцтва горада дала яму добрыя характарыстыкі. Таксама ў яго быў маленькі дзіцёнак. Суддзя прапанаваў замірыцца. Так і было зроблена. Жанчын аднавілі на працы", - гаворыць Валеры Беразіенка.

У якасці маральнай кампенсацыі Ігар Кананчук набыў кожнай жанчыне па кампутару. Былі выплачаны грошы за вымушаны прагул. Іх аднавілі на працу, заключылі з імі кантракт на год, які потым проста не працягнулі.

Грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі адзначае, што тэлефанаваў кіраўніку горада Станіставу Барадаўку і пытаўся ў яго, якое яны мелі маральнае права вылучаць гэтага чалавека на такую прэмію, бо ён жа збіваў жанчын і супраць яго была ўзбуджанана крымінальная справа. Барадаўка адказаў Паўлоўскаму, што гэтыя факты яму невядомыя і абяцаў з гэтым разабрацца. Як ён з гэтым разабраўся — мы бачым.

Нагадаем, што прэмія ўручаецца ў трох намінацыях "Вытворчая дзейнасць", "Грамадска-палітычная дзейнасць" і "Невытворчая сфера" пачынаючы з 2001 года. Прэмія зацверджана з мэтай прапаганды інавацыйных ідэй, перадавога вопыта і прызнання дасягненняў у пералічаных сферах. У гэтым годзе было вылучана 29 намінантаў. 15 з іх сталі лаўрэатамі і атрымаюць па 100 базавых велічынь кожны. Урачыстая цэрымонія ўзнагароджвання адбудзецца 23 лютага.

Вось такія яны, нашы магілёўскія "людзі года"...

**spring96.org**

## Премьер-министра Беларуси тревожит проблема выплаты госдолга



*Михаил Мясникович*

Михаил Мясникович хочет иметь выверенные расчеты безусловного исполнения всех внешних обязательств без ущерба для экономики к дате рассмотрения правительством основных прогнозных показателей социально-экономического развития страны на 2013 год.

15 февраля на заседании коллегии Минфина он потребовал от госорганов организовать четкую систему работы над рефинансированием накопленных долгов, чтобы распределить пики выплат по времени.

Как сообщает пресс-служба Совмина, Мясникович обратил внимание на особенности управления долговой нагрузкой местных органов власти. Их внутренний долг на 1 января составил 29,7 трлн. Рублей. Это почти 62% доходной части местных бюджетов. А в Брестской, Гродненской и Могилевской областях этот показатель и вовсе достигает 80%!

**Belmy.info**

## У Бялыніцкім раёне на спецыялістаў ускладаюць функцыі наглядчыкаў



*Уладзімір Канавалаў*

Дырэктар ААТ "Новая Друць" Уладзімір Канавалаў (дарэчы, галоўным акцыянерам гэтай гаспадаркі з'яўляецца Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь) выдаў загад, згодна якому за кожнай абавязанай асобай замацаваны галоўны спецыяліст гэтай гаспадаркі. Як паведамляе раённая газета "Зара над Друццю", "яны ажыццяўляюць жорсткі кантроль за даўжнікамі, вядуць улік выхаду на працу, а таксама сочаць, каб не было парушэнняў дысцыпліны. Вядучы спецыяліст па кадрах Кацярына Куляшова штодзённа прадстаўляе аператыўную інфармацыю аб выніках кантролю ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама, РАУС, суд".

Аднак і гэтага раённым кантралёрам з каардынацыйнага савета па выкананні дэкрэта № 18 паказалася мала і яны запатрабавалі ў дырэкцыі ААТ "Новая Друць" "на вытворчых пасяджэннях заслухоўваць справаздачы замацаваных адказных асоб аб праведзенай выхаваўчай рабоце з абавязанымі бацькамі, разглядаць выпадкі парушэнняў

(Заканчэнне на ст. 4)

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## У Бялыніцкім раёне на спецыялістаў ускладаюць функцыі наглядчыкаў

*(Заканчэнне. Пач. на ст. 3)*

дысцыпліны на сходах працоўнага калектыву”.

Самі спецыялісты гаспадаркі, з якім ўдалося паразмаўляць, лічаць чарговую ініцыятыву дырэкцыі “проста маразмам”. Іх здзіўляе той факт, што замест выканання сваёй непасрэднай працы яны павінны выступаць наглядчыкамі за абавязанымі бацькамі і падмяняць сабой сацыяльных работнікаў.

Дарэчы, згодна загаду начальніка РАУС палкоўніка Юрыя Сіманава, у Бялыніцкім раёне за кожнай абавязанай асобай замацаваны супрацоўнік міліцыі, які штодзень правярае лад жыцця і месцазнаходжанне сваіх падапечных. Гэта ж колькі дзяржаўных сродкаў марнуецца на нагляд за “абавязанымі асобамі”...

Між тым ініцыятар пераўтварэння спецыялістаў гаспадаркі ў наглядчыкі, дырэктар ААТ “Новая Друць” Уладзімір Канавалаў, уганараваны прэміяй Бялыніцкага райвыканкама “Чалавек года” за 2011 год у галіне “Вытворчая дзейнасць”. Дарэчы, сам Уладзімір Вінідзіктавіч раней не адзін год адпрацаваў старшынёй Клімавіцкага райвыканкама, да таго часу, пакуль у 2005 годзе быў прыгавораны Гомельскім абласным судом да 4 гадоў пазбаўлення волі за перавышэння службовых паўнамоцтваў. Падчас працы ў Клімавіцкім раёне спадар Канавалаў вызначыўся тым, што ажыццяўляў пастаянны ціск і пераслед мясцовых дэмакратычных актывістаў і праваабаронцаў. Зараз Уладзімір Вінідзіктавіч узначальвае багацейшую гаспадарку Бялыніцкага раёна і “цісне” ўжо на іншых людзей... Нагадаю, што падчас праверак, якія праводзіліся спецыялістамі магілёўскага КДК вясной і восенню мінулага года, у ААТ “Новая Друць” былі знойдзены шматлікія парушэнні. Спецыялісты КДК нават прапаноўвалі зняць гаспадарку з абласной Дошкі гонару. Пра гэтыя парушэнні неаднаразова пісалі дзяржаўныя газеты, распавядала беларускае тэлебачанне. Аднак што нашым чыноўнікам нейкія праверкі КДК і знойдзеныя прыпіскі...

Нягледзечы на звышнільны кантроль за абавязанымі асобамі ў Бялыніцкім раёне з боку супрацоўнікаў міліцыі і спецыялістаў гаспадарак, спагнанне доўгу на ўтрыманне іх дзяцей склала толькі 49,1 %. Усяго ж запазычанасць 73 абавязаных асобаў перад дзяржавай дасягнула 628 мільёнаў рублёў. Сумныя вынікі працы наглядчыкаў з міліцыі і адказных чыноўнікаў райвыканкама...

***Сяргей Семяновіч***

### В магазинах дорожает сгущенное молоко и бананы

В Беларуси за 14 дней февраля потребительские цены на товары и платные услуги увеличились на 0,9% по сравнению со средними ценами января. Об этом свидетельствуют данные Белстата, размещенные на сайте.

Таким образом, с начала года инфляция составила 2,8%.

В январе этого года потребительские цены выросли на 1,9% после роста на 2,3% в декабре прошлого года.

Наибольший прирост цен с начала февраля отмечен на бананы (12,3%), молоко сгущенное с сахаром (5,1%), картофель (4,3%), огурцы свежие (3,2%), говядину бескостную, пиво (2,6%), водку (2,3%), капусту свежую, свеклу, помидоры свежие, чай, табачные изделия (1-1,3%), медикаменты (2,5%), ткань хлопчатобумажную (1,1%), посуду (0,9%), услуги высшего образования (9,8%), санаторно-оздоровительные, бытовые услуги (3,7%), медицинские услуги (2,5%).

В 2011 году инфляция в Беларуси составила 108,7%. Правительство и Нацбанк Беларуси заявляют о намерении снизить ее в 2012 году до 19-22%

## Долго ли будут сдерживать рост тарифов ЖКХ?




Президент категорически запретил повышать цены на жилищно-коммунальные услуги. Можно ли выдохнуть и расслабиться, ведь последние месяцы только и было разговоров, что о неминуемом повышении, да причем сразу почти в два раза?

О решении президента рассказал 15 февраля глава Администрации Владимир Макей во время посещения ОАО «Барановичихлебопродукт».

– На совещании у главы государства был поднят вопрос о том, чтобы повысить цены на оплату услуг ЖКХ. Однако президент это категорически запретил, – сказал Владимир Макей.

Такое решение главы государства вызвало смятение даже в Министерстве финансов.

– Все вопросы к Макею. Мы понятия не имеет, как они собираются возмещать затраты системы ЖКХ, не повышая тарифы, – ответили «EJ:Недвижимость».

Сегодня уровень возмещения квартиросъемщиками затрат на услуги жилищно-коммунального сектора составляет около 17%. В законе о бюджете на 2012 год прописано, что этот показатель должен достигнуть 35%. Эта цифра разработана с учетом обязательств перед Антикризисным фондом ЕврАзЭС.

Ожидалось, что выход на

***(Окончание на ст. 5)***

## Долго ли будут сдерживать рост тарифов ЖКХ?

*(Окончание. Нач. на ст. 4)*

на такой уровень окупаемости ЖКХ обернется для населения существенным ростом цен. В декабре 2011 года платежи за жилищно-коммунальные услуги семьи из трех человек, проживающей в двухкомнатной квартире, составляли около 215 тысяч рублей. Доведение уровня возмещение населением стоимости услуг ЖКХ до 35% приведет к увеличению цифр в жировке минимум на треть.

Но это необходимо сделать, потому что к 2015 году этот показатель система ЖКХ должна довести до 60%. И если не начать это делать сейчас плавно и постепенно, то потом резкое повышение обернется для населения настоящим шоком.

Наблюдатели предполагают, что рост тарифов на услуги ЖКХ государство пока сдерживает, чтобы закрепить низкий уровень инфляции.

А нам, потребителям, остается лишь смотреть на жировку и ждать очередных заявлений от правительства.

По делу

За 2011 год сумма оплаты жилищно-коммунальных услуг в стране выросла на 32,2%. Данный расчет произведен на примере двухкомнатной квартиры площадью 48 квадратных метров.

Услуги по техническому обслуживанию жилых домов подорожали с 296 до 350 рублей за квадратный метр (на 18,2%), платежи за канализацию – с 242 до 305 рублей за 1 куб. метр (на 26%), электроэнергия подорожала для населения со 173 до 238,5 рубля 1 кВт’”ч (на 37,9%).

***Игорь ВИНТОВ, Ej.by***

## Размер среднемесячной пенсии на Могилевщине составляет Br1 203 670



Размер среднемесячной пенсии на Могилевщине составляет Br1 203 670. Об этом сообщила председатель комитета по труду, занятости и социальной защите облисполкома Светлана Тарасенко.

На учете в управлении по труду, занятости и социальной защите Белыничского райисполкома состоит 7187 получателей пенсий и пособий, в т.ч. 81 ветеранов Великой Отечественной войны, 218 многодетных семей, 748 неполных семей, 55 семьи, воспитывающих детей-инвалидов.

## Заработные платы должны постоянно расти

Федерация профсоюзов Беларуси обратилась к правительству с требованием о повышении зарплаты сотрудникам ряда предприятий страны.




Как пояснили в пресс-службе ФПБ , на сегодняшний день на ряде предприятий уровень оплаты труда вызывает обеспокоенность. Более чем у 67% работающих средняя заработная плата не превышает сложившуюся среднемесячную заработную плату по республике - 2 млн 877 тыс.

В основном, такие проблемы возникают из-за временных трудностей с реализацией готовой продукции, нехватки комплектующих.

Но даже в такой ситуации Федерация профсоюзов настаивает на том, что зарплаты должны продолжать расти, а наниматели обязаны создавать условия для повышения производительности труда и роста заработных плат, пишет Интерфакс.

По данным Белстата, в Беларуси по состоянию на 1 февраля 2012 года складские запасы в промышленности составили Br16 трлн 21,6 млрд в фактических ценах. Между тем, на 1 января 2012 года складские запасы составляли Br12 трлн 517 млрд. Таким образом, за январь запасы готовой продукции выросли на 28%.

Средняя заработная плата по народному хозяйству Белыничского района в январе-декабре 2011 года составила Br1610,3 тыс. В том числе средняя заработная плата в декабре сложилась на уровне Br2311,5 тыс. Однако профсоюзных чиновников в нашем районе повышение зарплат трудящихся не очень волнует, ведь свою неплохую заработную плату “абаронцы правоў працоўных” в любом случае получат вовремя. Они лучше расскажут о победителях “социалистического соревнования” и наградят их почётными грамотами...

***Ирина Беганкина***

# «Пилите золотую гирю и к первому мая снимайте вклады»

Экономисты отмечают возрастающий интерес белорусов к рублевым вкладам. Потребительский ажиотаж декабря-января сменяется затишьем, а эксперты советуют вкладывать белорусский рубль на рублевые депозиты.

Объем наличных белорусских рублей, находящихся в обращении, за месяц снизился на 8,4%, что на 1 февраля составило 6146,5 млрд. рублей, – сообщает денежно-кредитная статистика Нацбанка. В качестве основной причины уменьшения денежной массы в обороте эксперты видят изменение настроений населения. Так ли это, «Салідарнасць» поинтересовалась у руководителя общественного объединения «Аналитический центр «Стратегия» Леонида Заико.

– Первый фактор – это, безусловно, снижение покупательской потребности населения, – считает эксперт. – Я сам помню, как передо мной в магазине под Новый год человек покупал продуктов на миллион. Сейчас вспышка закончилась, к февралю спрос уменьшился. Снизилась и потребность в наличных деньгах.

В качестве еще одного фактора, повлиявшего на снижение массы наличных денег, экономист называет новые системы безналичного расчета.

– Технологии безналичного расчета, дебетовые карты, расчеты через систему «Visa» и «Белкарт» уменьшают потребность населения в наличности, – отмечает Леонид Заико. – Если система работает грамотно, то наличные деньги будут иметь вовсе условное значение.

Но в качестве основной причины уменьшения наличных рублей собеседник называет высокие процентные ставки



*Леонид Заика*

рублевых депозитов.

– Сейчас в Беларуси есть уникальная возможность быстро заработать деньги, – отмечает эксперт. – Если вложить миллион под 5% в месяц, можно получить 150 тысяч за три месяца.

По мнению Леонида Заико высокие проценты – краткосрочный тренд, который не дает среднесрочной и долгосрочной картины.

– Поводы для «напряженки» есть. Это и скорый рост базовой величины, и рост заработной платы, считает эксперт. – Все будет зависеть от того, как поведет себя население и как правительство в результате благодарно развяжет инфляцию.

Однако, по словам Леонида Заико, до апреля–мая высокая ставка по рублевым депозитам сохранится.

– Если хотите грамотно вложить деньги, то самая высокая процентная ставка в Греции, затем можно держать на заметке Пакистан. В зоне евро ставка низкая – всего 1,8 %. У американцев не намного больше – 2%. В Венесуэле – 6,5%. Низкие проценты в Японии, и Германии. Словом, деньги в Европу отправлять не стоит. Чудовищные доходы за короткий срок предлагает лишь Нацбанк. Поэтому, продолжайте пилить золотую гирю, но к Первомаю снимайте вклады и на парад, – с иронией советует аналитик.

# Девальвации опять не будет

Подобные заявления из уст высокопоставленных чиновников уже воспринимаются, как зашифрованный сигнал: «Спасайся, кто может!»

Девальвации белорусского рубля и скачка цен больше не будет. Об этом, как сообщает «БЕЛТА», заявил глава президентской администрации Владимир Макей в задушевном разговоре с работниками ОАО «Барановичхлебопродукт». По его словам, «проблема зарплат и цен будет помаленьку уходить».

– Государство старается поддержать людей, но это не значит, что на выплату зарплат будут вбрасываться эмиссионные деньги. Мы уже научены горьким опытом, – сказал Владимир Макей. – Среди ряда других причин эмиссионные деньги в том числе были причиной того, что у нас произошла девальвация рубля и скачок цен. Больше такого не будет.

Впрочем, опытные люди знают: иногда месседжи чиновников нужно расшифровывать с точностью до наоборот. И начало этой практике в современной Беларуси положил Александр Лукашенко.

Посещая «Белкоммунмаш» вскоре после новогоднего обвала рубля в 2009-м, глава государства заявил:

– Если кто-то умеет меня слушать, я об этом [девальвации] говорил в интервью с нашими журналистами.

***(Окончание на ст. 7)***



# Девальвации опять не будет

*(Окончание. Нач. на ст. 6)*

Я, правда, примерно сказал: ну и что, если там на 10 [процентов], чуть больше мы девальвируем нашу валюту. Это что, такие большие потери? Возьмите мое выступление. Даже здесь я намекнул на то, что мы держать не будем.

Правда, на самом деле Александр Лукашенко говорил в декабре 2008-го вот что:

– До конца нынешнего года официальный курс доллара к рублю останется на уровне 2.200 рублей, заявил он. "Всё, нельзя больше. Мы народу обещали. И я сказал председателю Нацбанка: имей в виду, не дай Бог мое слово будет нарушено. Придет новый год: 5% – это ничто. Вот возьмите 5% с 2.200. Что, это огромная сумма для наших людей? Но мы на это не идем, чтобы там обвалить чего-то. И нет необходимости сейчас чего-то обваливать.

31 декабря 2008 года в новогоднем обращении к белорусам руководитель страны сказал: «Власть не допустит обвала и хаоса, не предаст ваше доверие…» А менее, чем через 24 часа стало известно, что рубль рухнул на 20%.

Не прошло и трех лет, как история повторилась.

– Никакой девальвации мы не планируем, – сообщил Александр Лукашенко жителям Борисова 12 ноября 2010 года. – Кто поднял этот вопрос? Его подняли «шарлатаны», для которых, чем хуже стране, тем лучше для них. Поэтому ни о какой девальвации речи не может быть.

Заявления такого рода неоднократно звучали не только в предвыборный период.

– Никакой разовой девальвации в Беларуси не будет, – утверждал 17 марта 2011 года тогдашний председатель Национального банка Петр Прокопович. – Наш опыт говорит, что резкая девальвация – плохое решение для белорусов.

Что было дальше, все помнят. И вот теперь глава президентской администрации выступает в том же духе. Неужели всё идет к очередному обвалу рубля?! ***"Салідарнасць"***

# Стартавала кампанія "Народны кантроль – за сумленныя выбары!"




Партыя БНФ, ГА БНФ "Адраджэньне", Рух "За Свабоду" і Беларуская партыя "Зялёныя" абвесьцілі пачатак кампаніі "Народны кантроль – за сумленныя выбары!". Ад 20 лютага пачаўся набор валянтэраў.

20 лютага ў штаб-кватэры Партыі БНФ адбылася прэс-канфэрэнцыя з нагоды старту кампаніі "Народны кантроль – за сумленныя выбары!". Партыю БНФ прадстаўляў намесьнік старшыні Ігар Лялькоў, ад Руху "За Свабоду" і Беларускай партыі "Зялёныя" прысутнічалі Юрась Губарэвіч і Алесь Лагуцёнак адпаведна.

Намесьнік старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў напачатку сустрэчы адзначыў, што арганізацыі ўжо дамовіліся аб тым, што будуць выкарыстоўваць кампанію для актывізацыі грамадзянаў. Асноўная ідэя кампаніі "Народны кантроль – за сумленныя выбары!" – прыцягнуць як мага больш шырокія колы грамадзтва да непасрэднага ўдзелу ў кантролі за тым працэсам, які беларускія ўлады называюць выбарамі.

Усе суб'екты кампаніі "Народны кантроль – за сумленныя выбары!" зьяўляюцца зарэгістраванымі агульнанацыянальнымі арганізацыямі, якія могуць самастойна вылучаць прэтэндэнтаў на ўдзел у камісіях і назіральнікаў па ўсёй Беларусі на ўсіх акругах. Пры належнай актыўнасьці грамадзян ёсьць магчымасьць "закрыць" сяброўствам у выбарчых камісіях і назіраньнем усе 110 акругаў на "выбарах-2012".

Партыя БНФ, ГА БНФ "Адраджэньне", Рух "За Свабоду" і Беларуская партыя "Зялёныя" абвесьцілі набор валянтэраў, грамадзянаў РБ, для таго, каб рыхтаваць іх да назіраньня за выбарамі-2012.

Намаганьні ўдзельнікаў кампаніі будуць сканцэнтраваныя на тых акругах, дзе будуць вылучацца прадэмакратычныя кандыдаты, адзначыў Ігар Лялькоў.

Па словах намесьніка старшыні руху "За свабоду" Юрася Губарэвіча, мяркуецца, што валянтэры будуць працаваць на 25–30% выбарчых акругаў.

Далучыцца да кампаніі можна па тэлефонах: +375 17 3340827, +375 17 2845012, а таксама напісаўшы ліст на: uprava@narodny.org, info@belgreens.org, info@pyx.by

Для будучых валянтэраў будзе арганізаванае навучаньне з наступным вылучэньнем у выбарчыя камісіі ніжэйшага ўзроўню ад Партыі БНФ, ГА БНФ "Адраджэньне", Руху "За Свабоду" і партыі "Зялёныя".

***narodny.org***

## На сярэдні заробак у 543 долары хоча выйсці кіраўнік Магілёва

Паводле Станіслава Барадаўкі, такія заробкі магілёўцы мусяць атрымліваць пад канец гэтага года.

Дарэчы, за студзень сярэдні заробак у Магілёве склаў 2,9 мільёна рублёў, або каля 340 долараў, піша газета "Веснік Магілёва". За кошт чаго заробкі вырастуць да абяцанага ўзроўню, Станіслаў Барадаўка не паведаміў.

***"Еўрарадыё"***

# Ідэолагі патрабуюць эканоміць




Магілёўскія ідэолагі ў чарговы раз настойліва парэкамендавалі раёнкам пераходзіць на штотыднёвы выпуск. Нарэшце высветлілася, што гэта неабходна для выхаду на самаакупальнасць.

На адбыўшайся днямі калегіі ўпраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама начальнік упраўлення Андрэй Кунцэвіч і намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч зноў нагадалі рэдактарам раённых газет аб неабходнасці пераходу з двухразовага на штотыднёвы выпуск, паведамляе інтэрнэт-сайт Быхаўскай раённай газеты “Маяк Прыдняпроўя”. Нарэшце быў агучаны і сапраўдны чыннік неабходнасці такога пераходу – “трэба імкнуцца да росту самаакупальнасці”. Паказальна, што пачалі эканоміць сродкі нават “на свяшчэннай карове” – ідэалагічнай апрацоўцы простых людзей.

Сёння на Магілёўшчыне акупаемай з’яўляецца толькі адна раённая газета – “Асіповіцкі край”.

У якасці прыкладу для пераймання былі названыя хоцімскія і слаўгарадскія раёнкі, якія ўжо перайшлі на штотыднёвы выпуск. Аднак рэдактар “Маяка Прыдняпроўя” Мікола Леўчанка выказаў сваё скептычнае стаўленне да загаду ідэолагаў: “Першай адзін раз на тыдзень на 16-ці старонках яшчэ летась пачала выходзіць хоцімская раёнка, нядаўна яе прыкладу паследавала слаўгарадская. Ганна Мармузевіч, галоўны рэдактар хоцімскай газеты, потым у сваім выступленні казала аб сваіх наваўвядзеннях, але, ведаючы іх кадравыя праблемы, і тое, што да нядаўнега часу там нават кіраўнікі выдання часта мяняліся, мяне яе словы не пераканалі. Тут, як кажуць, спачатку сем разоў адмерай, а потым адзін раз адрэж”.

У мэтах эканоміі запланаваны і другія змены: “Рэгіянальныя СМІ чакаюць і рэарганізацыйныя змены. Ідэя пераўтварэнняў складаецца ў наступным: правесці зліццё рэдакцый двух выданняў - “Магілёўскіх ведамасцяў” і “Магілёўскай праўды”, заснавальнікам якіх з’яўляецца аблвыканкам, і на іх базе стварыць інфармацыйнае агенцтва “Магілёўскія ведамасці”. Акрамя выканання асноўнай задачы - збору і перадачы навін - агенцтва працягнула б выпуск указаных газет, але ўжо з пэўным мэтавым дзяленнем, без тэматычнага дублявання і з меншымі фінансавымі выдаткамі.

Абсалютная большасць знаёмых журналістаў, якія працуюць у раёнках, выказваюць сваё адмоўнае стаўленне да пераходу на штотыднёвы выпуск.

Нагадаем, што дэ-юрэ ўсе раённыя газеты з’яўляюцца самастойнымі суб’ектамі гаспадарання і маюць права вызначаць перыядычнасць выхаду самі. І аб якой аб’ектыўнасці і непрадузятасці рэгіянальнай прэсы на Магілёўшчыне можна казаць, калі ёй без усялякага сораму “кіруюць” ідэолагі…

***Віктар Баравікоў***

# Экономим, чтобы потом «фестивалить»?




Фестиваль “Александрыя збірае сяброў” (агрогородок Александрия) расширит границы. Об этом сообщил во время встречи с Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Беларусь в Украине Валентином Величко председатель Могилевского облисполкома Петр Рудник.

По словам губернатора, праздник, который проходит в Шкловском районе на Купалье, по уровню организации и масштабам в перспективе может перешагнуть “Славянский базар” в Витебске. Фестиваль 2012 года значительно “вырастет” в плане географии участников и количества мероприятий. “Мы хотим собрать представителей со всех областей, лежащих вдоль Днепра”, — уточнил Петр Рудник. В основе задумки праздника – идея славянского братства Беларуси, России и Украины. “В прошлом году к нам уже приезжал коллектив из Смоленской области, — подчеркнул губернатор. — Места, где берет исток река. В планах — дойти до Черного моря”.

Как отметил глава Приднепровского края, “Александрыя збірае сяброў” из года в год набирает обороты и развивается. “Свидетельство тому, что мы двигаемся в правильном направлении, — хорошие отзывы зрителей, возрастающее количество завсегдатаев фестиваля”, — сказал Петр Рудник.

***_По материалам region.mogilev.by***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 21.02. 2012 г. у 18-00.